# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКі ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВіК

№ 20 (1722) ГОД XXXIV БЕЛАСТОК 14 МАЯ 1989 г. ЦАНА 40 зл.




Рок-гурт „Уліс“. Злева: Вячаслаў Корань, Кірыл Шэвандо, Сяржук Краўчанка і Андрэй Патрэй.

## „Уліс“ з Мінска

### МОЛАДА, СУЧАСНА, ПА-БЕЛАРУСКУ

Гэты рок-гурт яшчэ раз пераконвае, што культура — гэта непарыўны ланцуг з'яў і падзей, у якім важным з'яўляецца кожнае звяно, каб была цэласць. У тым ліку і рок-музыка, якая нямала каму здаецца яшчэ не больш як „гульнямі з завуголляў“.

Ледзь паспеў у Беластоку з'явіцца ў выданні Яна Максімюка беларускі пераклад „Уліса“ Джэймса Джойса (хай сабе і мізэрным тыражом), як у друку БССР пачалі з'яўляцца водгукі, рэцэнзіі на яго („Чырвоная змена“, „Літаратура і мастацтва“, „Нёман“). У сваю чаргу іх не маглі не заўважыць тыя, хто, нягледзячы на татальна рускамоўную адукацыю, чытае па-беларуску з захапленнем. Сярод іх аказаліся і рокеры, натуральна. А значыць і ў беларускім грамадстве ўсё як у людзей. Хвароба хваробай, а жыццё буяе.

Калі басісту Сяржуку Краўчанку давялося здабыць і прачытаць унікальны экземпляр беларускага „Уліса“, ён усклікнуў: „Эўрыка! Ёсць назва для нашага гурта, якая завершыць канцэпцыю яго іміджа, — „Уліс“. Падарожжа ў саміх сябе і беларусам верне Беларусь“. Яго думку падзялілі і тыя, хто ў пачатку 1989 года пакінуў разам з ім „Бонду“ — гітарыст Вячаслаў Корань і светлатэхнік Валеры Цяніцкі (у „Бондзе“ іх вакансію занялі двое — Мікола Логінаў і Андрэй Хмяльніцкі), і тыя, хто далучыўся да ідэі новага рок-гурта — вакаліст Андрэй Патрэй, барабаншчык Кірыл Шэвандо і Сяржук Махаў (флейта).

Ужо першыя рэпетыцыі калектыву прывабілі да „Уліса“ ўвагу журналістаў. Знакамітыя інструменталісты, натхнёныя тэкставікі (на гэтую ролю заахвоціліся ў „Уліс“ Фелікс Аксёнцаў і Фёдар Кашкурэвіч), грунтоўная творчая платформа абяцалі нямала перспектыў. Але памятаю, як Сяржук Краўчанка ўгаворваў прадстаўнікоў прэсы не спяшацца з авансамі: „Не трэба гнаць коней. Мне здаецца, мала таго, што вам спадабалася наша ідэя. Ды раптам яна з якоесьці прычыны не ўвасобіцца. Будзе ж ганьба не толькі нам, а ўсяму беларускаму рок-руху. Вось адбудуцца канцэрты, запішам касету — тады, паслухаўшы ўсё грунтоўна, і выказвайце свае думкі, пішыце, што хочаце“.

Угаварыў. І тыя сціпла чакалі. Але якое ж здзіўленне адчулі ўсе, калі з-за сямю бугроў у адным з лютаўскіх (1989) выпускаў праграмы „На музычных мерыдыянах“ радыёстанцыі „Свабода“ Сяржук Краўчанка даваў інтэрв'ю Васілю Крупскаму (відаць, зрабіў выключэнне са сваіх правілаў, бо не кожны ж дзень тэлефануюць з Мюнхена), падрабязна раскрываў творчую канцэпцыю рок-гурта „Уліс“, аналізаваў патэнцыял беларускай рок-плыні ўвогуле.

Усё ж такі творча распрацаваная адраджэнская ідэя, яе грунтоўнасць аказаліся настолькі прывабнымі для спецыялістаў, што гарантавалі цікавы аб'ект увагі яшчэ перад тым, як з'явіліся вынікі.

А вынікі ж і з'явіліся неўзабаве.

Першыя канцэрты ў сакавіку таго ж года сталі пачаткам трыумфу. Зрэшты, публіка сустракала новае імя насцярожана (ведама, калі аб'яўляюць: „А зараз першы раз выйдзе на сцэну рок-гурт „Уліс“), але праводзіла бурнымі авацыямі. Бадай, ніхто так да канца і не верыў, што заявы аб „пачаткоўстве“ — гэта не жарт. Твар у твар перад публікай была сталая паўнацэнная зорка. На

(Працяг на стар. 5)

## У ПРЭЗІДЫУМЕ ГП БГКТ

15 сакавіка 1989 года адбылося пасяджэнне Прэзідыума Галоўнага праўлення БГКТ, якое абмеркавала шэраг істотных спраў, у тым ліку нашу прысутнасць у надыходзячых выбарах у Сейм і Сенат. Здзіўленне выклікаў факт, што для нацыянальных меншасцей пры падзеле мандатаў не прадбачана ніводнага месца. Відаць, лічаць нас сілай, якая здолее перамагчы ў выбарнай канфрантацыі з прызнанай апазіцыяй. А мо прыйшлі да вываду, што нас увогуле няма?

Члены Прэзідыума выслухалі інфармацыю аб падрыхтоўцы конкурсу беларусаведы, першы этап якога для студэнтаў быў праведзены 16 сакавіка ў Варшаве і Беластоку. Фінал конкурсу запланаваны на месяц май.

Прэзідыум разгледзеў стан падрыхтоўкі беларускага календара на 1990 год. Матэрыялы, уключаныя ў яго, паводле выказванняў прысутных, маглі б паспяхова публікавацца ў навуковым зборніку. Рэдактару календара, а ім з'яўляецца Яўген Мірановіч, прапануецца ўключыць матэрыял, які б адлюстроўваў жыццё Беласточчыны. Прэзідыум вырашыў пачаць працу над календаром на 1991 год, каб пазбегнуць сёлетняй сітуацыі, калі каляндар выйшаў з друку ў сакавіку.

Адабрэнне з боку членаў Прэзідыума выклікаў праект надпісання дагавору на бездэвізны турыстычны абмен моладзі і членаў БГКТ з арганізацыямі ў БССР. Беларуская моладзь Беласточчыны да гэтай пары не мела такой магчымасці. Пры нагодзе абмяркоўвалася пытанне заснавання турыстычнай базы БГКТ, без якой немагчыма весці турыстычную дзейнасць.

З добразычлівай ацэнкай сустрэлася прапанова правядзення конкурсу „Хроніка мясцовасці“. Мэтай конкурсу будзе зацікаўленне моладзі і жыхароў вёсак, мястэчак і гарадоў роднай гісторыяй. У хроніках будуць адлюстраваны ўспаміны тых людзей, якія памятаюць адлеглы гістарычны час.

Былі таксама разгледжаны прапановы аб узнагароджанні заслужаных дзеячоў Беларускага таварыства.

Віктар Стахвюк




## ШТО ЗДАРЫЛАСЯ З ВЕРАНІКАЙ?

Вераніка была высокай, прыгожай бландзінкай. Паколькі працавала трэнерам, часта выязджала заграніцу, адкуль прывозіла модную вопратку. Ад гэтай вопраткі лопаліся ўжо ўсе шафы. Калі Вераніка выходзіла з белай машыны, у футры да пят, з доўгімі залатымі валасамі, вясёлая, шчаслівая, усе позіркі людскіх вачэй кіраваліся на яе. Вераніка добра выйшла замуж і нарадзіла сына. Крыху клопатаў было толькі з хворым бацькам, але Вераніка надалей выязджала на спартакіяды і розныя зборы ў краіне і за мяжой.

І раптам... „Калі споўнілася ёй трыццаць год, прадала частку свайго дабытку. Узяла крыху грошай, пакінула хворага бацьку, сына і мужа і пайшла... у манастыр“.

Пра гэта ўсё пісала Міра Лукша ў сваім артыкуле „Манастыр“ („Ніва“ № 18 ад 30 красавіка 1989 г.).

Аўтарка апісвае далей штодзённае жыццё Кіева-пакроўскага манастыра, зусім не клапоцячыся пра тое, што пакінула чытача ў аслупенні і незадавальненні, быццам тая хітрая каханка, што ўцягнула ў свае сеці даверлівага мужчыну, не даючы яму нічога ўзамен. Не паглыбляецца ў псіхалагічны аспект разрыву манашак з рэальным светам.

„Ранняя літургія працягваецца да 10 гадзіны, пасля — снеданне ў трапезнай. У трапезнай — доўгія сталы і лаўкі. Падчас трапезы, па традыцыі, адна з сясцёр голасна чытае жыція святых. Абед — а 3 гадзіне. А 17 гадзіне багаслужэнне.“

Манашкі, акрамя таго, абрабляюць дзялянку, сочаць за чысцінёй у храме і на тэрыторыі манастыра, працуюць на кухні, у пральні, у швальні.

„Чаму яны тут? — пытае Міра Лукша. — Для адных — гэта ўцёкі ад сябе, для іншых — пошукі самі́х сябе. А можа роля дабравольнай мучаніцы лягчэйшая, калі жыццё не выносіць няўдачнікаў? Лягчэй любіць увогуле, чым любіць канкрэтнага чалавека?“

Чытач ужо ведае, аднак, што Вераніка няўдачніцай не была. Ды і ніхто не рэзыгнуе так лёгка з дабрабыту. Дык што здарылася з ёю, што прымусіла яе падацца ў манастыр? У чым праявілася жыццёвая драма гэтай жанчыны?

На гэтае пытанне якраз Міра Лукша адказу не дае. А павінна даць яго, а прынамсі — у падтэксце, так, каб чытач мог здагадацца, што з'явілася прычынай гэтай трагедыі. Бо толькі як трагедыю можна разглядаць яе ўчынак. Пайшла ў манастыр, каб шукаць у малітвах і духоўнай бібліятэцы праўду? А сына яна каму пакінула? А хворага бацьку? — Мужу? Не, не мае яна Бога ў сэрцы.

Не можа ж быць у жыцці нічога свяцейшага, як выхаванне дзіцяці, якое ты нарадзіла. А

(Працяг на стар. 7)



НАШЫ НАЗВЫ

# НАВАКОЛЛЕ ГРЫНЕВІЧ

**(Тапаграфія дарог, урочышч і гідраграфічнай сеткі наваколля Грыневіч-Вялікіх, Катлоў, Белай і Відава).**

**Міжгор'е,** тэрыторыя палёў, пералескаў, знаходзіцца паміж горкамі.

**Міжгорная грунтавая дарога,** выходзіць з Грыневіч-Вялікіх, ідзе паміж камамі ўрочышча „Міжгор'е“.

**Грыневічы-Вялікія,** сяло на левым беразе рэчкі Белай. Назва паходзіць ад праваслаўнага баярына Грыня. Першае ўпамінанне пра сяло ў дакументах з 1528 г.

**Грахоўчына,** поле.

**Арлянка,** невялікі пасёлак на сухіх эолавых пясках ля ракі Арлянкі.

**Дубовае,** у мінулым раслі тут дубы.

**Седліс,** агароды і сенажаць.

**Пяскі,** пясчаныя прасторы, неўраджайныя глебы.

**Смуга,** поле.

**Гаёк,** поле.

**Падраманішча,** лугавыя прасторы, сенажаць у даліне ракі Арлянка.

**Праневіцкая грунтавая дарога,** непрафіляваная, кюветы адсутнічаюць, шмат глыбокіх і павярхоўных каляін.

**Дворык,** частка сяла Грыневічы-Вялікія, у мінулым быў тут панскі двор.

**Лескі,** поле.

**Багны,** невялікае паніжэнне тэрыторыі, тут праходзіць забалочаная палявая дарога.

**Ніз,** невялікае заглыбленне ў даліне ракі Арлянка.

**Арлянка,** рака, яе выток у сяле Елёнка.

**Седлаватае,** паніжэнне паміж камамі ў выглядзе сядла.

**Лескі,** поле.

**Белая,** рака.

**Загасцінец,** поле.

**Папоўшчына,** поле, што належала да праваслаўнай парафіі, ва ўрочышчы Стаяхнава, ля Грыневіч-Вялікіх.

**Зарэчча,** луг за ракой Арлянкай.

**Стаяхнава,** урочышча, дзе стаіць праваслаўная царква і могільнік.

**Глінкі,** урочышча са шматлікімі выкапамі па выдабытай гліне.

**Каменны груд,** поле

**Царкоўная грунтавая дарога,** падсыпаная пяском, вядзе з Катлоў да Стаяхнава.

**Гара-Вышка,** кама, складаецца з пылаватага дробназярністага пяску жаўтаватага колеру. Там стаіць трыянгуляцыйная вышка, з геадэзійным знакам. Месца прабывання берагавой ластаўкі. Бязлітасна раскопваецца.

**Арапкова Малое,** поле ў „Міжгор'і“.

**Катлы** — сяло, насельніцтва беларускае.

**Глебкова,** частка тэрыторыі, дзе на рацэ Арлянка стаіць бетонны мост.

**Шасейная дарога Бельск — Нарва.**

**Пастунікі,** пашавыя ўгоддзі.

**Паток Стаяхнава,** у даліне ракі Белая, выкапаны пры меліярацыйных работах.

**Крэстова,** курганнае ўзвышша з каменным крыжам, каля скрыжавання дарог: „Гасцінца“ і „Царкоўнай“, з заходняга боку Катлоў. Чорны фінскі граніт з эпітафіяй: „Сей крест сооружен нами 1910 года 30 августа (по ст.ст. БР), к.д. Катлы“.

**Гасцінец,** грунтавая дарога, шчэбневая ды прафіляваная, з кюветамі па баках.

**Нараўская шасейная дарога,** каменная маставая пакрыта бітумным бетонам у 1960-1970 г.г.

**Хутар Грыневічы.**

**Кабылішча,** пашавыя ўгоддзі і луг сярод палёў.

**Падлессе,** ворная зямля, каля „Гасцінца“.

**Арапкова Вялікае,** поле.

**Рудкі,** даліна і паток з вадой іржавага колеру.

**Міжгор'е,** поле сярод узвышша.

**Пасынская грунтавая дарога,** старадаўні гістарычны тракт, каля Белай дарога часткова знішчана, непрафіляваная, кюветы адсутнічаюць.

**Жарстваная гара,** месца, дзе калісьці даставалі шчэбень і гравій.

**Круцёлка,** урочышча ды палявая грунтавая дарога. У гэткім месцы праезджыя часта блудзілі, іншы раз усю ноч хадзілі навокал, быццам штосьці іх вадзіла.

**Рудплавіска,** даліна, луг і поле. Назва паходзіць ад месца, дзе знаходзілася ліманітава руда — жалязняк.

**Плавучая,** луг.

**Варапкова,** луг.

**Грынявіцкае,** поле.

**Шведскія могілкі,** з усходняга боку сяла Белая. Ад ракі Белай — вельмі стромкі адхон. Частка могілак — паўночна-ўсходняя, узарвана. Помнік гістарычны, не ахоўваецца.

**Бярэжнікі,** поле.

**Азерца,** упадзіна, у якой да часу меліярацыі, збіралася вада.

**Мяшчына,** поле.

**Рудплавіска,** поле.

**Зарэчча,** поле, луг.

**Шавелеўскі паток,** роў у тарфяніку.

**Балота,** тарфяніковае, забалочанае месца.

**Кут,** тарфянік.

## ЮБІЛЕЙ экскурсаводаў

Экскурсаводы — ці без іх можна правесці ўданую экскурсію? Яны адкрываюць нам вочы на тое, што нібыта і бачым, але аб чым не ведаем. Белавежскія экскурсаводы раскрываюць людзям таямніцы славутай пушчы ўжо 30 гадоў, а хутчэй — не менш, як 30 гадоў. Дык адкуль — скажа хтосьці — гэткая недакладнасць? Па простай прычыне: гурток экскурсаводаў ПТТК у Белавежы заснаваўся 26 красавіка 1959 г., але экскурсаводствам людзі тут займаліся надоўга раней. Пачатак іх дзейнасці можна аднесці нават да часоў І сусветнай вайны. Заснаванне ў канцы 1921 г. запаведніка, які неўзабаве пераўтварыўся ў нацыянальны парк, пачало прыцягваць у Белавежу штораз больш ахвотных пабачыць першабытную пушчу і яе ўладароў — зуброў. Наведвальнікаў вадзілі кіраўнікі парка і падначаленыя ім працаўнікі. Гэтая праца лічылася адным са службовых абавязкаў.

Зімой 1957/58 г.г. тагачасны кіраўнік турысцкага начлежнага дома ПТТК Лявон Казлоўскі наладзіў ад імя турысцка-краязнаўчай арганізацыі экскурсаводчы курс, у якім маглі прыняць удзел усе ахвотныя гэтым заняцца. Першыя запісаліся працаўнікі парка. Курс паспяхова закончыла 27 чалавек — і яны ў 1959 г. заснавалі гурток. Першым старшынёй выбралі Яна Валкавыцкага. Пасля былі: Уладзімір Валкавыцкі, Уладзіслаў Луканоўскі, Яцэк Высмулэк, Войцех Кавэрскі, Уладзіслаў Ляпрус, Баляслаў Стысяк, Канстанцін Вісьнеўскі, Эва Высмулэк, Вальдэмар Жвыць, Ян Лапінскі, Станіслаў Куявяк. Заraз старшынёй гуртка з'яўляецца Яўген Макарэвіч — ляснік па адукацыі, але які працуе ў мясцовай гмінный спулдзельні.

У 1961 г. белавежскія экскурсаводы атрымалі дзяржаўныя правы і членскія білеты. Праз восем гадоў гурток дабіўся ўласнага памяшкання ў палацовай браме. У 1970 г. усе экскурсаводы апрануліся ў аднолькавую вопратку, напамінаючую леснікоўскую, а ў 1974 г. увялі свой



*Актывісты белавежскага гуртка экскурсаводаў: сядзяць (злева): Вальдэмар Жвыць, Эва Высмулэк, Яніна Храпан, Тэрэса Валкавыцкая (старшыня навучальнай камісіі); стаяць (злева): Канстанцін Вісьнеўскі, Яўген Макарэвіч (старшыня гуртка), Ян Лапінскі, Васіль Скепка і Уладзіслаў Ляпрус.*

# Зорка

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ


## Дзякуем гродзенцам за падарунак

**У Гродне, у грамадскім клубе „Паходня“, 18 красавіка ў час сустрэчы з нашымі пісьменнікамі Віктарам Шведам і Сакратам Яновічам слухачы даведаліся, што нашы дзеці хочуць чытаць беларускія кніжкі. Экспромтам сабралі каля трох дзесяткаў беларускіх кніжак для дзяцей. Беларуская кніжка ў Беластоку цяжкадаступная. „Паходнеўцы“ абяцалі дапамагаць нам кніжкамі і далей.**

**Сярод прысланых кніжак — беларускія народныя казкі, творы беларускіх класікаў і новыя кніжкі сучасных беларускіх пісьменнікаў.**

**Вялікае дзякуй гродзенцам і нашым пісьменнікам, якія гэтыя кніжкі перадалі „Зорцы“.**

**„Зорка“ разашле кніжкі ў падарунак самым актыўным „зорчыным“ карэспандэнтам.**



*Сёстры Еля і Крыся Семянюк з Храбалоў — удзельніцы конкурсу беларускай песні. І ў гэтым годзе жадаем ім паспяховага выступлення і добрага месца ў конкурсе.*

**Фота Яніны Чэрнякевіч**




У адну вясковую гасцініцу зайшоў вандроўны гандляр. За плячыма ён нёс вялізны клунак з таварамі. А гаспадыня гасцініцы была прагная жанчына. Як толькі яна ўбачыла клунак, ёй захацелася яго займець. Яна завяла гандляра ў пакой, а сама пабегла да мужа, каб параіцца, як выдурыць у гандляра клунак.

— Гэта вельмі лёгка зрабіць, — сказаў ёй муж. — Трэба нарваць травы мёга, зварыць яе і падмяшаць у вячэру. Трава мёга адбірае памяць. Калі гандляр паесць яе, ён абавязкова забудзе свой клунак у нас.

Гаспадыня так і зрабіла: пайшла ў сад, нарвала цэлае бярэмя травы мёга, зварыла яе і адвар падмяшала ва ўсе стравы, нават у рыс. А потым падала ўсё гэта на вячэру гандляру.

Гандляр з'еў вячэру і нічога не заўважыў. Толькі ў галаве яго крыху закружылася і твар пачырванеў; яму захацелася спаць. Ён пайшоў да сябе ў пакой, лёг і адразу заснуў. Назаўтра ён прачнуўся яшчэ на досвітку з цяжкай галавою, сабраўся і пайшоў сабе далей.

Гаспадыня пачакала, пакуль гандляр выйдзе з гасцініцы, і тут жа кінулася ў яго пакой па клунак. Але пакой быў пусты. Гаспадыня ўсё агледзела, усё абшнарыла. Клунак не іголка, прыкмеціць яго няцяжка. Ды як ні шукала, а знайсці яго ніяк не магла. Раззлавалася гаспадыня і пайшла да мужа.

— Нічога не варта твая трава мёга! Дарэмна я старалася, варыла яе. Гандляр пайшоў і нічога нам не пакінуў.

— Не можа быць! Хто паесць травы мёга, абавязкова нешта забудзецца. Пашукай як след! Пэўна ён што-небудзь забыўся.

Гаспадыня зноў пабегла ў пакой, дзе начаваў гандляр, зноў усё агледзела, усё перавярнула дагары нагамі і зноў нічога не знайшла. Нарэшце яна спынілася пасярод пакоя і разгублена паглядзела па баках. Раптам яна пляснула сябе па лбе і на ўвесь дом закрычала:

— Забыўся! Забыўся!

Муж пачуў крык і прыбег да яе.

— Ну што? Што забыўся?

— Забыўся заплаціць за начлег!

### Аднавокі і двухвокі

Жыў на адным востраве гультай. Звалі яго Сэкі. Ад ранку да вечара валяўся ён на падранай цыноўцы і штосьці мармытаў.

— Што ты ўсё мармычаш, Сэкі? — сарамацілі яго людзі. — Узяўся б ты лепш за работу.

Сэкі адказваў:

— Цэлыя дні я чытаю малітву, прашу багоў збавіць мяне ад беднасці. Калі багі пачуюць мае просьбы, яны пашлюць мне шчасце!

І вось аднойчы Сэкі даведаўся, што на суседнім востраве жывуць аднавокія людзі.

Зарадаваўся гультай:

— Багі пачулі мае малітвы! Яны паслалі мне шчасце! Зараз жа паплыву на востраў аднавокіх, зваблю якога-небудзь аднавокага выродка ў сваю лодку і прывязу сюды!

Дзівяцца суседзі:

— Навошта табе гэты чалавек?

— А я пасаджу яго ў клетку і буду паказваць за грошы. Кожны захоча паглядзець на такога выродка.

Сеў гультай у лодку і паплыў на суседні востраў.

Як толькі Сэкі прычаліў да берага, ён адразу ж убачыў тое, што шукаў: насустрач яму ішоў аднавокі чалавек.

„О шчасце, маё багацце само ідзе да мяне!“ — зарадаваўся Сэкі.

Хітры гультай нізка пакланіўся аднавокаму і сказаў з няшчырай усмешкай:

— Шмат гадоў марыў я сустрэцца з такім прыемным чалавекам, як ты...

Аднавокі пільна паглядзеў сваім адзіным вокам на Сэкі і пачціва прамовіў:


**(Працяг на стар. 10)**




## ШАНОЎНЫ МОЙ СЯБАР „НІВА“

*Звяртаецца да Цябе Твой даўні чытач з нізкай дзіцячых вершаў, якія хацеў бы ўбачыць на старонках тыднёвіка. Ганарар ахвярую на пабудову Музея беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху ў Гайнаўцы.*

*Цяпер аб сабе. З'явіўся на свет у в. Пагарэлка, Карэліцкага раёна, Гродзенскай вобласці. Мастак. У 1986 годзе ў выдавецтве „Мастацкая літаратура“ выдаў зборнік паэзіі „У Нёмна на плячах“. Пішу для дзяцей і дарослых.*

**з пашанай і ўдзячнасцю**
**Мікола Бусько**
**Баранавічы, Брэсцкай вобл.**

**Мікола Бусько**

### АДВЯЧОРАК

Захад сіне-ружовам
Нахіліўся чалом.
Адвячорак каровы
Гоніць з поля ў сяло.

Пыл кудзеляй клубіцца
Ўсцяж дарогі ўгары.
— Му-у! — пара падаіцца, —
Прагучала ў двары.

Глуха рыпнулі дзверцы —
Тта крочыць сюды.
— Пі, — паставіў вядзерца
Прахалоднай вады.

Мама села з даёнкай
Ля рагулiных ног.
Два струменьчыкі звонка
Б'юцца ў гулкае дно.

Поўны посуд нацыркаць
Маме трэба якраз...
Будзе смачнай зацірка
На вячэру у нас!

### ГАЛУБЫ

— Фіў! —
Махнуў Алесь рукою.
Раптам дружнай талакою
Галубы — уверх папарна —
Расплюскалі крыллем хмары.

Узняліся ўраз, як мігам,
Бы разгорнутая кніга —
Галубіная страха...

Задаволена ўздыхаў:
— Ах, якая ж у іх згода! —
Хлопчык думаў з асалодай.
— Крыл і пругкага паветра
У бясконцых сініх нетрах...

Назіраючы, зайздросціў:
— Вось бы мне да хмар у госці!
З галубамі я кружыўся б,
З небам добра падружыўся...

— Ой, як носяцца высока!
Іх дастанеш толькі вокам.
Там вясёлкаю накрыты
Купал майскага блакіту, —
Так хлапчук праз час каторы
Вывучаў птушыны норав.

Невялікімі кругамі
Пакрылялі над дамамі
І з бадзёрасцю
У целе
На вільчак страхі
Зляцелі...

# КРЫЖАВАНКА



**Упоперак:** 1) важная папера, 7) здабыванне рыб, 8) сельскагаспадарчая расліна на корм і для ўгнаення, 9) энергічнае дзеянне, або неспадзяваная няўдача, 10) назоўны, або родны, 12) чалавек, які суправаджае і ахоўвае, 15) калега мясніка, 18) адплата за зло, 21) басейн, 23) адна з характэрных рыс літаратурнай беларускай мовы, 26) сусед грузіна, 29) фільтр у арганізме чалавека, 31) нішчыць жалеза, 32) месца, дзе капаюць, 33) са старога на новае, 34) робіць свой „дом" з балота.

**Уніз:** 1) капае магілы, 2) „муж" свінні, 3) з неба не сыплецца, 4) адтуліна ў носе, 5) звер, які вые, 6) пара года, 7) без валос, 11) з яго плялі лапці, 13) пчолы з яго робяць соты, а людзі свечкі, 14) па-суседску з Іракам, 16) слон, або вош, 17) асноўная думка, 19) беларускі пісьменнік, аўтар „Палескіх рабінзонаў", 20) жаночае імя, 22) біклажка, 24) сумеснае абмеркаванне, паседжэнне, 25) Усяслаў Чарадзей, 27) узор, мадэль, 28) гнойная пухліна, 30) усё, што звязана з фільмам. „ядань"

Сярод чытачоў, якія на працягу двух тыдняў прышлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны дзве кніжныя ўзнагароды.

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў № 14.**

**Упоперак:** дэцыбел, Аўрора, Курск, авадзень, архіў, ганарар, адліга, радзільня, Ялта, кнот, лунатік.

**Уніз:** дэкламацыя, Цюрых, Быкаў, лапата, груз, гронка, імігрант, гандбол, ногі, „Рунь", „Вянок", „Лада", лён.

Кніжныя ўзнагароды выйгралі: Мікалай Суднік з Полацка і Міхал Адамік з Сабалянаў.





# АФАРЫЗМЫ

Падчас нішчэння моц маюць усялякія фальшывыя аргументы, падчас стварэння — ніколі. Тое, што не праўдзівае, не будуе.

*

Хто набліжаецца, таго не адпіхайце; хто адыходзіць, таго не затрымоўвайце; хто вяртаецца, таго прыміце так, як быццам бы ніколі не адыходзіў.

*

Нерашучасць з'яўляецца найбольшай хваробай.

*

Калі накладваюць на людзей абавязкі, а не даюць ім ніякіх правоў, трэба ім добра плаціць.

*

**Спатыкаючыся, можна зайсці далёка; нельга толькі ўпасці і не падняцца.**

*

**Толькі чалавек, які ўсё жыццё працаваў, мае права сказаць: я жыў!**

*

Штодзень трэба было б паслухаць хаця б адну песню, прачытаць добры верш, паглядзець выдатную карціну і — калі б гэта было магчымым — сказаць некалькі разумных слоў.

**Іаган Вольфганг Гётэ**

# СПЯВАЕМ БЕЛАРУСКІЯ ПЕСНІ

## А Я Ў ПЕЧЫ НЕ ПАЛІЛА, МІЛЫ МОЙ, МІЛЕНЬКІ

— А я ў печы не паліла, мілы мой, міленькі,
А я есці не варыла, голуб мой сівенькі.
— Запалі, міла, навары, міла,
Запалі, о-ха-ха, чарнабровая мая!*)

— Я цябе не буду слухаць, мілы мой, міленькі,
Я цябе не буду слухаць, голуб мой сівенькі.
— Я наб'ю, міла, я наб'ю, міла,
Я наб'ю, о-ха-ха, чарнабровая мая!

— Ой, не маю я здароўя, мілы мой, міленькі.
Ой, не маю я здароўя, голуб мой сівенькі.
— Памірай, міла, памірай, міла,
Памірай, о-ха-ха, чарнабровая мая!

— Дзе ж мяне ты пахаваеш, мілы мой, міленькі,
Дзе ж мяне ты пахаваеш, голуб мой сівенькі?
— Пад гарой, міла, пад гарой, міла,
Пад гарой, о-ха-ха, чарнабровая мая!

— А магілу чым засадзіш, мілы мой, міленькі,
А магілу чым засадзіш, голуб мой сівенькі?
— Бур'янам, міла, бур'янам, міла,
Бур'янам, о-ха-ха, чарнабровая мая!

— Ці заплачаш на магіле, мілы мой, міленькі,
Ці заплачаш на магіле, голуб мой сівенькі?
— Засмяюць, міла, засмяюць, міла,
Засмяюць, о-ха-ха, чарнабровая мая!

*) Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца.




Парыжанка вяртаецца дадому ў новым футры з норак. Муж, які ўбачыў набытак, аж пачырванеў са злосці.

— Нічога, мой любы, толькі шэсцьсот пяцьдзесят франкаў у месяц. Гэта не павінна давесці цябе да банкруцтва, — салодкім голасам тлумачыць жонка.

— А праз колькі месяцаў?

— Ах, пра гэта я забыла спытаць!

*

— Якая прычына таму, што хочаце развесціся з жонкай?

— Супадзенне характараў.

— Хіба вы хацелі сказаць: „несупадзенне характараў".

— Я сказаў тое, што хацеў. Падумайце сабе: я п'ю як дракон, яна таксама; я куру з ранку да вечара, яна таксама; яна пастаянна праседжвае ў суседак, я гэтаксама... Ці ў такой сітуацыі далейшае сужыццё магчымае?

*

Афіцыянт падымае трубку. Звоніць жанчына, якая дапытваецца, ці няма ў рэстаране яе мужа.

— Запэўніваю вас, што вашага мужа ў нас не было.

— Адкуль вы ведаеце пра каго я пытаю, калі я вам не адрэкамендавалася? — са злосцю крычыць жанчына.

— Я ўпэўнены ў гэтым. Жонкі джэнтльменаў, якія заходзяць да нас, настолькі тактоўныя, што не шукаюць сваіх мужоў па шынках, — ветліва паясніў афіцыянт.

## МІЖ НАМІ

**Не так цяжка аддаваць жонцы ўсю зарплату, але цяжка даказваць, што яна ўся.**